Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 3000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 36.000 м. п. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 7000 мк., сярод тэксту 6000 м. і на 4 стр. 5000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 7. Вільня, Нядзеля, 9-га верасьня 1923 г. Год I.

## „Ахілесауская пята“.

Сыстэма нашых ворагаў у Польшчы (а хто тут ня вораг?!)—гэта аплёвываньне і *лёгкаважаньне* ўсяго беларускага. Згодна з „опініяй“ пераважаючай большасьці польскага грамадзянства і прадстаўнікоў улады, ўсё, што творыць Беларускі народ — ці то ў межах школьнае навукі, ці ў палітычнай сфэры, ці ў эканамічнай самаарганізацыі,—ўсё гэта або „нічога ня варта“, „штучна“, або „не беларускае“, „маскоўскае“, або „кіраванае з Бэрліну, ці Коўні“... І, так аценіўшы нашае будаваньне Бацькаўшчыны, польскае грамадзянства і польская адміністрацыя з „чыстым сумленьнем“ вядзе сваю готэнтоцкую палітыку вынішчэньня ўсяго беларускага.

Для кожнага, хто хаця болей-меней знаёмы з беларускім рухам, ясна, што варта гэткая зласьлівая брахлівасьць тых, каму хочацца нечым „апраўдаць“ свае паступкі, якія прадстаўляюць *точную копію палітыкі нямецкіх гакатыстаў* у адносінах да палякоў за часоў панаваньня Вільгэльма II. Але польскія гакатысты баламуцтвы свае стараюцца шырыць акурат сярод найменш сьвядомых, найцямнейшых народных масаў.

Аднак, тое, што робіцца *за гранічнай мяжой—у Усходняй Беларусі*, часта-густа прымушае польскую гакату прыкусіць язык. Там, на Усходзе, беларускае пытаньне разьвязываецца ў шырокім дзяржаўным маштабе, там закладзена кузьня беларускае культурнае працы, там—ў беларускіх вышэйшых школах і вучоных установах—творацца непераходныя беларускія культурныя цэннасьці. І тамака ўрэшце будуецца *свая дзяржава*—Беларуская Соцыялістычная Радавая Рэспубліка, якая зьяўляецца ўжо *беларускай ня толькі па свайму назову, але і ў-ва ўсей сваей істоце.*

З гэтым польскі шовінізм прымушаны сур'ёзна лічыцца: Радавая Беларусь—гэта-ж раўнапраўны сябра Саюза Соцыялістычных Радавых Рэспублік, а з гэным Саюзам Польшча прымушана вясьці „прыязную“ хаця-бы на пагляд палітыку.

Затое-ж палякі шукаюць ў Усходняй Беларусі тае *„ахілесаўскае пяты“*, ў якую маглі-бы балюча ўкусіць нашых усходніх братоў. І такую пяту яны знайшлі.

Усе мы ведаем, як балюча адчувае кожын беларус той факт, што Беларусь ня толькі падзелена паміж рознымі гаспадарствамі, але йшчэ парэзана на кускі і ў межах С. С. Р. Р. Радавая Беларусь — гэта ўсяго некалькі паветаў Меншчыны, а ўся *беларуская Вітэбшчына, Магілеўшчына, Смаленшчына—прырэзана да Масквы* і разглядаецца, як „искони русская земля“. Зусім так, як Заходнюю Беларусь палякі абвяшчаюць за край „rdzennie polski“. З гэтым усходнія беларусы даўно вядуць змаганьне. Беларуская культурна-нацыянальная праца выйшла далёка за межы гэнае куртатае „Радавае Беларусі“ і захапіла ўсе другія беларускія землі, хоць і аддадзеныя „ў пахт“ Маскве. Вынікам гэтага быў цэлы рад пастаноў беларускіх камуністычных зьездаў і нарад, якія дамагаліся *звароту Радавай Беларусі яе нацыянальных абшараў.*

Здавалася, што голас „сваіх“ — камуністаў—знойдзе послух у Маскве, і што гарачае жаданьне ўсіх беларусаў наагул зьдзейсьніцца. Так трэба было спадзявацца, судзячы хаця-бы паводле савецкіх газэт і тых прынцыпаў, якія былі пакладзены ў аснову будаўніцтва Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік.

Так здавалася, але... дагэтуль так ня сталася. І палякі, выкрыўшы гэту „ахілесаўскую пяту“ ў дзяржаўным будаўніцтве Усходняе Беларусі, б'юць па ёй, як мага.

Апошнімі днямі „обстаўскі“ орган „Dziennik Wileński“, паміж іншым, пісаў:

„Вельмі невясёлыя думкі наводзіць Менск, сталіца „беларускае рэспублікі“. Перадусім трэба заўважаць, што гэная „рэспубліка“ не абнімае ўсяго абшару, заселенага так званымі беларусамі і ня ўключанага ў склад Польшчы. Магілеўшчына і Вітэбшчына далучаны да Масквы, як інтэгральная частка Маскоўшчыны. Для гэтых зямель ня мае сілы прынцып, абвешчаны бальшавікамі, што кожны народ можа жыць самастойна. Вось яшчэ адзін доказ, як паны бальшавікі шануюць прынцып нацыянальнасьці“.

Так піша нейкі прыездны з Менску ў эндэцкай газеце. І гэта — запраўды больш балючы ўдар па беларускай дзяржаўна-творчай працы на Усходзе, чым уся эндэцкая зьвяга на беларусаў, што запаўняе кожын дзень страніцы польскіх газэт кшталтам обстаўскага „Dzien. Wil.“. Найбольш балючы, бо на яго нічога нельга адказаць: першы раз ён—*заслужоны...*

Ведама, заслужоны не беларусамі наагул, а тэй партыяй, якая хоча мець манаполію на беларускі рух.

**К. Фалькевіч.**

## Дабрадзействы „польскага гаспадара“.

Прэзыдэнт Польскай Рэспублікі Войцэхоўскі ў сваей Люблінскай прамове заявіў, што „польскі гаспадар нікаму крыўды ня зробіць, але пад тым варункам, што толькі ён у Польшчы будзе гаспадарыць“. Тры месяцы з гакам ужо выключна гаспадарыць гэты польскі гаспадар, але тыя крыўды для нацыянальных меншасьцяў наагул і для беларусаў асабліва, якія мы адчувалі і за папярэдніх урадаў, ня толькі ня спыняюцца, але наадварот, што раз павялічываюцца.

У сваей рэзалюцыі 4-га верасьня галоўная партыя, на якую апіраецца сучасны урад, эндэкі, залічаючы да ворагаў Польскай дзяржавы наогул усіх камуністаў, жыдоў, украінцаў і беларусаў, заклікае польскае грамадзянства да сопрацоўніцтва з урадам бараніць прынцып, што толькі польская большасьць мае права да ўпраўленьня дзяржавай, а эндэцкая „Gazeta Poranna“, робячы вывады з гэтай рэзолюцыі проста дамагаецца ад урадовых чыньнікаў спыніць „шкодную акцыю“, пад якою разумеецца ўсякае опозыцыйнае выступленьне. На адбыўшайся конфэрэнцыі ўрадовай прэсы пан старшыня міністраў Вітос так-сама кінуў пагрозы па адрэсу опозыцыйнай прэсы, абяцаючы павялічыць рэпрэсыі і г. д.

Як бачым „польскі гаспадар“ зусім ня думае ня толькі зьмеціць палітыку яго пяпарэднікаў, але яшчэ павялічыць рэпрэсыі аднасна ўсіх тых, хто знаходзіцца хоць-бы ў самай лёяльнай опозыцыі.

Так гаворыць і робіць цэнтральная ўлада. Але ўва што выліваюцца дабрадзействы „польскага гаспадара“ тут у нас на крэсас, у асобе мясцовай адміністрацыі, крэсовых „кацыкаў“, аб гэтым нават страшна падумаць, ня толькі пісаць і гаварыць. У кожным нумары беларускіх і украінскіх газэт мы знойдзем прыклады гэтай дзейнасьці. Гэта толькі сотая доля таго, што робіцца ў запраўднасьці, бо ў прэсу пападае па тым ці іншым прычынам далёка ня ўсё. Стэрорызаванае, запужанае мясцовае насяленьне, якое афіцыяльна лічыцца ворагам Польскай дзяржавы, прымушана маўчаць, бо запраўды трэба мець шмат грамадзкай сьмеласьці, каб голасна заявіць аб гэтых крыўдах і зьдзеках.

Але даволі будзе прывясьці некулькі фактаў, узятых нават не з беларускай ці украінскай прэсы, а з польскай, каб уявіць сабе, што дзеецца на нашых крэсах.

Пасол Воліцкі, ў „Robotniku“, апісываючы палажэньне ў Лунінецкім павеце сьцьверджае факт нялюдзкіх зьдзекаў і гвалтаў тутэйшай паліцыі над мясцоваю беларускаю люднасьцю.

„Вось літанія прозьвішчаў *пабітых на адным толькі паліцэйскім пастэрунку* ў *в. Велуце* ў *працягу двух тыдняў*:

„Янка Холад быў пабіты два разы прыкладамі карабінаў і паранены штыком,—на лбе рана глыбінёю $1^1/_2$ сант. Калістрат Холад—уся галава ў ранах, падбітыя вочы, цела пабіта прыкладамі. Ігнат Шмал пабіты прыкладамі. Дзямьян Гардзюк, Мар'я Гардзюк, Кацярына Наворыч, Сьцяпан Шыйц, Матрэна Холад, Аляксей Холад, Васіль Холад, Марка Клімчук, Адам Драбовіч, Гардзей Каховіч, Грыгор Муха, Васіль Шуляк—усе пабіты прыкладамі, паранены штыкамі.

„Можа хто думае, што людзі гэтыя зрабілі нейкае страшнае праступленьне —*тымчасам яны зусім нявінны.*

„Як доказ за што бье паліцыя хай паслужаць гэткія факты: Параска Арэхава, маючы хворага каня, не хацела даць паліцыянту падводы,—хворую, бо рабілася гэтае на другі дзень пасьля таго, як радзіла яна дзіця, замкнулі пад арыштам, пакінуўшы 24 гадзіннае дзіця дома. Натуральна, што дзіця дома памёрла. Марку Клімчука пабілі двойчы прыкладамі, пасьля зьвязалі яму рукі і кінулі на лаўку, так, што голаву меў у нізу, а ўсё цела ў гары, адны паліцыянты сядзелі на яго нагах, а другія лілі яму воду ў рот і ў нос, жадаючы, каб прызнаўся да нязробленага праступленьня, а вечарам пасьля гэтых мучэньняў яго звольнілі, як нявінаватага.

Таксама паліцыя ў Кажан-гарадку вядома з сваей дзікай жорсткасьці. Арыштаванаму Грыгору Зімічу за тое, што забіў цялё, не замэльдаваўшы паліцыі, зьвязалі рукі і ногі, завязалі рот і білі праз мокрую анучу ў пяты і па ўсім целе нагайкамі“.

І гэта робіцца ў Польшчы XX века, той

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

### Да адчыненьня Беларускага т-ва с.-г. крэдыту.

У панадзелак адбудзецца агульны сход арганізатараў Беларускага таварыства сельска-гаспадарчага крэдыту дзеля выбараў праўленьня т-ва і высьвятленьня іншых арганізацыйных пытаньняў.

Таварыства ўжо забясьпечена мінімумам срэдстваў патрэбных к пачатку працы.

### Да выданьня на беларускай мове кніжкі Радавага законадаўства.

Выдавецтва „Савецкая Беларусь“ рыхнуе да друку кніжку выкладчыка Бел. Дж. Ун. Гуткоўскага „Агульныя грунты радавага законадаўства“ як СССР, гэтак і Беларускай Рэспублікі.

Гэтая кніжка будзе скарыстана як падручнік пры вывучэньні радавага права ў школах.

### К паляпшэньню мэдыцынскай дапамогі на вёсцы.

Народны Камісарыят Аховы Здароўя разаслаў у паветы цыркуляр аб зьмене „ротных“ фэльчароў (бабкі і інш.)—школьнымі, г. з. скончыўшымі фэльчарскія курсы, дзеля паляпшэньня мэдыцынскай дапамогі на вёсцы.

Ротным фельчаром будзе дадзена магчымасьць паступаць у сярэдні мэдыцынскі тэхнікум, які адчыняецца ў Менску ў гэтым годзе.

### Закладка дравесна-газавага заводу.

У панадзелак 27 жніўня ў сялібе Сельска-Гаспадарчага Інстытуту адбылася ўрачыстая закладка будынку древесна-газавага заводу.

Гэта ёсьць першая спроба пабудоўкі газавага заводу і болей палепшанай хімічнай апрацоўкі дрэва.

### Агульна-асьветныя вячэрнія школы.

Гарадзкі Аддзел Народнай Асьветы пастанавіў пачаць заняткі ў агульна-асьветных вячэрніх школах 15 верасьня.

Прымацца ў гэтыя школы будуць рабочыя і рабочыя падросткі толькі ад 14 да 17 гадоў з роду; пастаноўлена таксама арганізаваць у гэтым годзе адну агульна-асьветную школу павышанага тыпу.

### Лагойская вол., Барысаўшчына.

Жыцьцё гэтай вёскі больш-менш добрае, няма тых разбойстваў і пьянства, якія мы бачым па іншых мясцох. Ужо ў сялян ёсьць жаданьне як-бы пачытаць тую ці іншую гэзэту.

Моладзь часта зьбіраецца разам і чытае газэты. У вёсцы няпісьменных няма, за выключэньнем старых.

Адносіны да школы добрыя, толькі адно дрэнна, што няма спэцыяльнага добрага памяшканьня. Ужо колькі раз зьвярталіся ў павятовы зем'адзел, каб ён адпусьціў матар'ялу для школы, а адказу няма і да гэтага часу.

Ня гледзячы на тое, што вёска жыве добра, хаты, у якой-бы можна было зьмясьціць шкоўу, няма зусім, а калі знойдуць якую, то вельмі дрэнную і так штогод, як толькі пачынаюцца школьныя заняткі.

Сяляне згаджаюцца адбудаваць школу за свой кошт, патрэбен толькі будаўнічы матар'ял.

У вёсцы ёсьць камітэт узаемадапамогі, які, дзякуючы чыннасьці старшыні сельсасвету, працуе добра. Вясной сабрана было больш 15 пудоў хлеба, які справядліва разьмеркаваны сярод беднаты. У часе веснавой працы бязконным сялянам была эроблена вялікая дапамога.

Р.

# Гаспадарскія парады.

## Розныя рады.

**Цеста з меду і цукру для падкармліваньня пчол зімой.** Змешываецца на 4 часьці цукру 1 часьць разагрэтага, без вады, мёду. Цукер або дробна таўкуць у ступцы, або купляюць гатовы дробны цукер (пудру цукровую). Замясіўшы пакідаюць на 1—2 дні, цеста стане радзейшае; тады падмешываюць яшчэ цукру да густаты і сухасьці і, невялічкамі кавалачкамі, завінуўшы у рэдзенькае палатно кладуць зьверху на рамкі пад падушку ці мату так, каб пчолы маглі выбіраць праз палатно. Дзе рамкі зверху шчыльныя, там трэба трошкі іх разсунуць.

**Ад чаго карова скідае цяле.** Каб карова ці кабыла не скідала свайго плоду, трэба дужа уважна хадзіць кала яе. Найперш трэба глядзець, каб не было дужа сцюдзёна, і непадвевала нідзе жывёлы, бо ад гэтаго карова можэ скінуць цялё. Асабліва пільнаваць трэба вясной: у дзень цёпла і сонечна, а ноччу сцюдзёна. Іншы раз спужаецца чагось карова, або яе ударыць — от і згінуло цялё. А найчасьцей гэта нешчасьце ад корму бывае. Калі жывёла зьесьць многа нестрайнага корму, напрыклад саломы змочанай дажджом, або падгніўшай саломы, у яе у кішках зьбіраецца еда, цісьне матку с цялём і яго ня можэ добра расьці. Саўсім ня можна даваць мёрзлага ці цьвілага (плесьневатага) корму, або засьмечанай ражкамі саломы. Добры гаспадар павінен добра аб усім гэтым памятаць і пільнаваць сваей скаціны.

# Усячына.

## Прыкладны учынак.

Пражскія студэнты, родам з Навагрудчыны, даведаўшыся аб кепскім матэр'яльным становішчы Навагрудзкай Беларускай Гімназіі, пастанавілі штомесячна адлічаць ад свае студэнцкае стыпэндыі па 10 чэскіх крон са стыпэндыята на карысьць Гімназіі, — дзеля таго, каб, як пішуць яны, дзеткі гаротнага беларускага народу, якія цяпер дзеля незаможнасьці сваіх бацькоў йдуць ў чужацкую школу, мелі магчымнсьць вучыцца ў сваёй роднай школе. Грошы гэтыя, па жаданьню ахвярадаўцаў, павінны йсьці на ўзнос платы цалком або часткаю за бяднейшых вучашчыхся беларускіх клясаў. У акуратнай высылцы дапамогі студэнты гатовы абвязацца на пісьме, і першая частка грошаў будзе атрымана няўзабаве. Кіраўніцтва гімназіі, згодна тых жаданьняў, якія выказаліся ахвярадаўцамі, ужо апрацавала статут раздачы гэных „пражскіх“ стыпэндыяў і пасылае яго на зацьвярджэньне ў Прагу.

## Курс на грошы.

**Варшава 7 Верасьня.**

(Афіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 249.000 |
| Нямецкая марка | 0.005 |
| Фунты штэрл. | 1.126.000 |
| Франкі франц. | 13.800 |
| Франкі бэльгійск. | — |
| 10 руб. золатам | 1.630000 |
| Польскі злоты | — |

## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, І І Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеўскі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв. 1
9) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
10) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
11) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
12) **Беласток**,

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.









Рэдактар-Выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.